

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Выходзіць з 1997 года.

# Газета Слонімская

№ 16 (16). Слонім. 19 верасня - 25 верасня 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны



Устаць. Суд ідзе.

## База - месца прыбытковае

**Цяпер у народным судзе горада ідзе працэс над групай работнікаў дробнаадтовай базы райспажыўсаюза.**

Яны абвінавачваюцца ў тым, што на працягу некалькі гадоў, займаючыся махінацыямі, накралі больш чым на 200 мільёнаў рублёў.

А. М.

Здарэнні

## Загінула сланімчанка

**У аўторак, 16 верасня, у 7.30 раніцы ў пажарную часць паступіў сігнал аб загаранні дома па вуліцы Чыгуначная, 50.**

Прыехаўшыя на месца здарэння, пажарныя выявілі ачаг загарання і хутка яго ліквідавалі. У адным з пакояў хаты яны знайшлі мёртвую 74-гадовую жанчыну з ранамі на галаве.

Па фактах здарэння міліцыя праводзіць праверку.

## На дырэктара з кулакамі

**Вечарам у пятніцу, 12 верасня, у Дзеравянчыцах адбыўся інцыдэнт мясцовага значэння.**

На дырэктара саўгаса «Пераможац» з кулакамі накінуўся трактарыст гаспадаркі Віктар Ж. Па словах сведкаў, гэтаму паслужыла тое, што рабочаму ў той дзень адмовілі выдаць заробак, бо ён быў на падпітку. Раз'юшаны мужчына спачатку аблаяў канторскіх жанчын, а потым схапіў за грудзі дырэктара, які спрабаваў яго ўціхамірыць. У выніку кіраўнік і механізатар надавалі адзін аднаму тумакоў і парвалі кашулі.

В. Я.

## Памёр паэт Рудольф Пастухоў

Яшчэ нядаўна мы сустракалі яго на вуліцах нашага горада. Гэта быў шчыры, адкрыты і сардэчны чалавек. Яго ведалі многія не толькі ў Слоніме, але і ў іншых гарадах Беларусі. З ім сябравалі, да яго прыязджалі ў госці, каб адпачыць ці пагаварыць пра палітыку, літаратуру і пра жыццё наогул. Ён умеў жыць, любіў людзей, цаніў дружбу і праўду. Такім быў і застаўся ў нашай памяці.

Нарадзіўся Рудольф Пастухоў у 1936 годзе. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГУ. З 1970 года жыў у Слоніме, працаваў на камвольна-прадзільнай фабрыцы. Быў першым кіраўніком Слонімскай суполкі БНФ, дэпутатам гарсавета. У 1994 годзе выдаў свой паэтычны зборнік «Судьба».

Рудольф Пастухоў адышоў добрым, душэўным, таленавітым... З жыцця. З літаратуры. Мы будзем памятаць пра Вас, Рудольф Аляксеевіч. Доўга-доўга...

**Калектыў рэдакцыі «Газеты Слонімскай»**

*Рудольф Пастухов*

**Осень**

**В лугах за Щарой свищет хмурый ветер.**
**Не осень, не зима - тоска и грязь..**
**И еле засыпаю на рассвете,**
**и утром молча бреюсь, тихо злясь,**
**и целый день с тоской такой же злою**
**я места не могу себе найти -**
**мне очень надо встретиться с тобою,**
**чтоб от тебя до смерти не уйти...**



*Сабачае жыццё* Фота Віталя Гіля

## Самагонны апарат стаяў у хляве

**У мінулы чацвер у Чамярах здарыўся пажар.**

Гарэў хлеў 24-гадовага жыхара вёскі Івана Х. Да прыезду пажарных гаспадар спрабаваў сваімі сіламі патушыць агонь. Аднак яго ініцыятыва мела сумныя вынікі: малады мужчына атрымаў апёкі рознай ступені цяжкасці і быў дастаўлены ў бальніцу.

Пасля таго, як байцы пажарнай часці ўтаймавалі агонь, то сярод абгарэлых рэштках у хляве знайшлі самагонны апарат. Хаця пажарныя лічаць, што прычынай пажару стала незатушаная цыгарэта, але гэта не выратавала Івана Х. ад вялікага штрафу за храненне прыстасавання па вырабу гарэлкі.

Не пашанцавала яму: гарэў, абгарэў, ды яшчэ аштрафавалі.

В. Я.

НАВІНЫ

## З'ЕЗД НАСТАЎНІКАЎ

**На мінулым тыдні, 12 верасня, адбылося пасяджэнне настаўнікаў Слонімшчыны.**

На сходзе абмеркавалі кандыдатаў у дэлегаты на Першы з'езд настаўнікаў Беларусі, які адбудзецца 3-4 кастрычніка гэтага года. Дэлегатамі з'езда абраны - дырэктар СШ №7 Надзея Сяркевіч, настаўнік біялогіі СШ №3 Аляксей Кухарэнка і настаўніца пачатковых класаў СШ №9 Людміла Яраш.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

## ТАБУРЭТКА КОШТАМ 700 ТЫСЯЧ...

**Днямі на мэблевай фабрыцы прайшоў незвычайны конкурс.**

Лепшыя станочнікі прадпрыемства спаборнічалі па вырабу... табурэткі. Падчас падвядзення вынікаў камісія ўлічвала хуткасць рук майстра і якасць ім зробленай прадукцыі. Пераможцам быў прызнаны Пётр Саўко. Другое і трэцяе месцы паміж сабой падзялілі станочнікі Іван Сялецкі і Рыгор Дабрыян. Прызёры конкурсу будуць адзначаны грашовымі прэміямі. За лепшую табурэтку майстру Саўко дадуць 700 тысяч рублёў, а яго калегам па 500 і 300 тысяч рублёў адпаведна занятаму месцу.

## ... А БУТЭЛЬКА - 52 ТЫСЯЧЫ РУБЛЁЎ

**Слонімскі вінзавод сваю вядомую настойку «Журавінка» пачаў разліваць у новы посуд.**

Ад гэтага смак напоя не змяніўся, а вось цана на яго значна падрасла. Цяпер пляшка «Журавінкі» ёмістасцю 0,7 літра каштуе звыш 95 тысяч рублёў. Аказваецца, што сама бутэлька даражэйшая за настойку на 9 тысяч рублёў, бо яна выраблена ў Польшчы і лічыцца сувенірнай.

Цана гэтай пустой бутэлькі 52 тысячы рублёў.

А. М.

ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК



*цены на 17 сентября*

| | |
|---|---|
| арбузы | 5,5 тыс. руб. |
| бананы | 23-25 тыс. |
| апельсины | 35 тыс. |
| яблоки | 4-8 тыс. |
| капуста | 4-5 тыс. |
| морковь | 5 тыс. |
| лук | 15 тыс. |
| чеснок | 35-40 тыс. |
| картофель | 4 тыс. |
| молоко | 6 тыс. 1 литр |
| творог | 14 тыс. |
| масло | 84 тыс. |
| яйца | 25-26 тыс. |
| свинина | 42-95 тыс. |
| телятина | 35-65 тыс. |
| сало солёное | 75 тыс. |

# Справы партыйныя

*Сёння інтэрв'ю нашай газеце даюць партыйныя лідэры Слонімшчыны*

**Міхась Варанец, 38 гадоў, старшыня Слонімскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі:**

-Нашай арганізацыі толькі тры гады, але здабыткі ўжо ёсць: мы маем свайго прадстаўніка ў гарсавеце, а ў 1995 годзе, на выбарах у Вярхоўны Савет, наш сябра Мікалай Варвашэвіч быў трэцім па колькасці набраных галасоў. У Слонімскай БСДП прадстаўлены ўсе слаі насельніцтва акрамя сялян. Мы спадзяемся на большае прадстаўніцтва рабочых і, увогуле, людзей наёмнай працы.

Дасягнуць улады складана. Яшчэ складаней - кампетэнтна, з карысцю для людзей, распарадзіцца ёю. Таму мы вучымся, набіраем вопыту. У 1998 годзе ў Слоніме мае адбыцца семінар для сяброў і прыхільнікаў партыі. У гэтым годзе прымаем удзел у абласным семінары. Пад час нядаўняга прыезду ў Слонім нямецкіх сацыял-дэмакратаў, абмяркоўвалася пытанне ўсталявання прамых кантактаў з партыйнай арганізацыяй невялікага нямецкага горада.

У нас ёсць пэўныя прагнозы на перспектыву. Час пакажа іх абгрунтаванасць. Галоўнае - мы ўпэнены ў сабе, ведаем што рабіць і як рабіць.

**Віктар Герасімчык, 35 гадоў, першы сакратар гаркама Партыі камуністаў (ПКБ):**

-Слонімская гарадская арганізацыя ПКБ юрыдычна зарэгістравана ў 1995 годзе. На сённяшні дзень яна налічвае 25 чалавек, сярод якіх ёсць рабочыя, пенсіянеры, работнікі адукацыі, службоўцы. За апошнія месяцы ад нас адыйшлі некаторыя члены, але я з аптымізмам гляджу ў будучыню і спадзяюся на хуткі рост партыйных шэрагаў.

У бліжэйшых планах гарадской арганізацыі - аднаўленне выпуску свайго бюлетэня «Наше время», падрыхтоўка да святкавання 80-х угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. Мы працягваем збор подпісаў у абарону маўзалея Ул.Леніна. Акрамя таго, наша арганізацыя плануе правядзенне і іншых мерапрыемстваў, скіраваных на абарону правоў людзей працы, на патрыятычнае выхаванне моладзі, у супрацоўніцтве з іншымі, блізкімі нам па ідэалогіі партыямі і рухамі.

**Іван Бедка, 47 гадоў, старшыня Слонімскай Рады партыі Беларускага Народнага Фронту:**

-Беларускі Народны Фронт на Слонімшчыне дзейнічае ўжо восем гадоў і на сённяшні дзень арганізацыя налічвае больш за сто чалавек. Сярод нашых сяброў ёсць рабочыя, прадстаўнікі інтэлегенцыі, навучэнцы тэхнікумаў, пенсіянеры. За апошнія гады наша арганізацыя значна амаладзілася. Нашы сябры ўдзельнічаюць у розных мерапрыемствах, якія арганізоўвае кіраўніцтва Фронту ў Мінску. А нядаўна трое нашых маладых сяброў былі дэлегатамі на ўстаноўчы сход «Маладога фронту»: Гэта новая агульнарэспубліканская арганізацыя. Мы вельмі спадзяемся на нашу патрыятычную моладзь.

**Аляксандр Кірычэнка, 43 гады, першы сакратар Слонімскага райкома Камуністычнай партыі (КПБ):**

-Арганізацыя наша даволі маладая. Большасці камуністам няма яшчэ 50-ці гадоў. Сярод нашых членаў ёсць інтэлігенты, рабочыя, ветэраны партыі. Дзейнічаюць дзве пярвічныя арганізацыі: раённая і гарадская, якія аб'яднаны ў Слонімскі райкам КПБ.

4-5 кастрычніка ў Мінску пройдзе з'езд нашай партыі, дзе будзе прынята праграма на перспектыву. Менавіта ён і акрэсліць асноўныя накірункі дзейнасці КПБ, яе стратэгію і тактыку.

**Георгій Маскаўчук, 57 гадоў, старшыня Слонімскай Рады Партыі Здаровага Сэнсу (ПЗС):**

-Наша арганізацыя дзейнічае ў горадзе з мінулага года. Што да колькасці партыйцаў, дык справа не ў ёй, а ў людзях, якія могуць самаахвярна працаваць, ведаючы, што ад гэтага не будуць мець ніякай карысці. Апошнім часам да нас пачала прыходзіць моладзь. Нядаўна ў ПЗС запісалася маладая пара.

Асноўная наша задача - імкнуцца дапамагаць людзям, каб лягчэй жылося ў гэты цяжкі час. Мы не чакаем «манны небесной», а пастаянна штосьці робім для горада, пасёлка, асобна ўзятага дома. І не заўсёды афішыруем свае заслугі, калі, напрыклад, пасля нашых зваротаў гарадскія ўлады заасфальтавалі дарожку, паставілі дарожны знак і г.д.

**Андрэй ТУРУК**

P. S. У нашым раёне існуе яшчэ і Аграрная партыя. На жаль, у яе кіраўніка Мікалая Крупскага не знайшлося часу, каб прадставіць сваю арганізацыю.

